# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 23/29 КАЛЯДЫ 2001 2/51/61


## КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ, СЛАЎЦЕ!

Ізь Сьвятам Хрыстовага Нараджэньня ад сэрца вітаю Вас, Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да свае роднае Царквы імкняцеся, а яшчэ доступу да Яе ня маеце.

З пастырскай любасьцяй да Вас упрашаю нашага Збаўца Ісуса Хрыста, што дзеля нашага збаўленьня дзіцяткам у людзкім целе зыйшоў на зямлю. каб у гэтую сьвятнюю пару ў вашых душах была пабожнасьць, у думках супакой за заўтрашні дзень, а ў хатах дастатак на тое, каб годна ўшанаваць вялікае сьвята Ягонага Нараджэньня.

Я ведаю, што, нажаль, далёка не для ўсіх Вас, а асабліва не для тых, што на Бацькаўшчыне, мае ўпрашаньні збудуцца, бо словы песьні "Слава ў Найвышшы Богу й на зямлі мір, ды прыяньне паміж людзьмі", што анголы сьпявалі ў ноч Хрыстовага Нараджэньня, на Беларускай Зямлі яшчэ не абярнуліся ў запраўднасьць.




Не абярнуліся яны ў запраўднасьць не таму, што наш Край і Народ нялюбы Богу, а таму, што мы самыя абярнуліся супраць Божае волі й нятолькі згадзіліся, каб над намі панавалі "праваслаўныя атэісты" ў сьвецкіх і духоўніцкіх вопратках, але, забыўшыся на Божыя наказы й нашае сумленьне, дагаджаем ім, ды памагаем у іхных нядобрых справах.

Не забыліся мы толькі наракаць на нашую долю.

Але чаго-ж нам на яе наракаць, калі мы яе самыя выбіраем, бо, ці-ж каб мы ня былі абыякавыя да таго, хто гэтую долю будзе вызначаць, у нас не знайшлося-б добрых дзяржаўных гаспадароў, ці-ж абыходзіліся-б з намі як зь нелюдзямі акупанты, каб мы шанавалі родную мову й спадчыну, ці-ж ня было-б паміж намі згоды й прыяньня, каб мы не зайздравалі адзін аднаму й ня былі гатовыя ўдаць за нішто суседа на несправядлівую кару.

Любыя Браты й Сёстры! З Божае любасьці да нас зыйшоўшы на зямлю, Ісус Хрыстос, ня прынёс нам збаўленьне як узнагароду за тое, што мы вонкава створаныя на Божае падабенства, а навучаў як збаўленьне асягнуць зьмяніўшы нашую сьведамасьць, нашыя душы на паслухмяныя й дагодлівыя Божай волі дзейнікі.

Божая-ж воля вылажаная ў Ягоных 10-ці Загадах і ў Хрыстовай Навуцы любіць Бога больш за ўсё й нашага бліжняга як любім самых сябе.

Не даволі, аднак, выяўляць любасьць да Бога й да нашага бліжняга аднымі гожымі словамі, трэба гэтую любасьць ужыцьцяўляць што-дня кіруючы нашымі ўчынкамі паводле Божых Загадаў.

У першай чарзе з гэтых учынкаў павінна быць прылюдная чэсьць Богу й малітва да Яго ў сьвятынях Царквы, што выконвае, а не выкарыстоўвае Хрыстовую Навуку, г.зн. у сваёй роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

А там, дзе Ейных сьвятыняў няма, маліцца й працаваць, каб гэтыя сьвятыні былі.

Разам з гэтым трэба дзейна выяўляць і любасьць да бліжняга, памятаючы, што найдаражэйшы наш бліжні - гэта Беларускі Народ, зь якога мы пайшлі на сьвет.

Але, калі мы любім нашых родных із усімі іхнымі асабістымі розьніцамі, дык любем і наш Народ із усімі, Богам дадзенымі яму асаблівасьцямі - ягонай мілагучнай мовай, узрушальнай песьняй, багатай мастацкай творчасьцяй і тысячагадовай гісторыяй.

Любем гэтую, з Божае ласкі, дадзеную нам спадчыну, жывем ёю ды ўзбагачайма яе для наступных пакаленьняў, бо грэх грэбаваць шчодрым Божым дарам.

Гэтак, чэсьцячы Бога ў сваіх сьвятынях, шануючы, як родная Царква вучыць, нашую спадчыну ды памнажаючы багацьце нашага Краю, мы створым мір і дастатак у нашым жыцьці на гэтым сьвеце й станем годныя, каб атрымаць збаўленьне, што Ягоным Нараджэньнем прынёс Ісус Хрыстос, у наступным.

Няхай-жа Ён паможа нам усё гэта асягнуць!

*+ Мітрапаліт Ізяслаў*

Першагерарх

Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

## ПАДАРОЖЖЫ ПАПЫ ЯНА ПАЎЛА II

Не абавязкава быць каталіком, каб уцяміць, што сярод значных асабістасьцяў XX-га стагодзьдзя цяперашні папа Ян Павал II займае адно з найвыдатнейшае мейсцаў.

Дзякуючы яму бо Каталіцкая Царква, а зь ёю й ўсё хрысьціянства ў канцы XX-га-пачатку XXI-га стагодзьдзя ня стала зьнямоглым пережыткам, але ўзноў пачало дзеяць як жывая й моцная нятолькі духовая, але й палітычная сіла па ўсім сьвеце.

Гэтае асягненьне прыйшло ня ў выніку нейкіх, неўпадобных гэтаму кансэрватыўнаму папу, рэвалюцыйных зьменаў у самой Каталіцкай Царкве, а праз зьмену ейных паводзінаў у дачыненьнях зь іншымі цэрквамі й вонкавым сьветам, або, інакш, праз зьмену стылю ейнае вонкавае палітыкі.

Найбольш відавочным выявам зьмены, стала тое, што ейнае выкананьне ня было сьцінутае на падуладных, а ўжыцьцяўляць пачаў яе сам папа праз ягоныя падарожжы па ўсім сьвеце, у якіх ён, разам зь весьцем веры, ушаноўваў асаблівасьці кожнага народу, які наведваў.

Ня меншы знак зрабілі папавыя просьбы прабачэньня за крыўды й шкоды ўчыненыя няцямнымі вернікамі Каталіцкае Царквы іншым хрысьціянам.

Калі-ж да гэтага дадаць факт, што папа няраз прамаўляў на роднай мове вернікаў, зь якімі сустракаўся, як гэта было апошнім летам на Украіне, дзе ён нават гаварыў і пабеларуску, дык ня дзіва, што знаходзіцца нямала ягоных паклонцаў, а няраз і пярэхрыстаў у каталіцтва, ці вунію.

Тым больш, што з другога боку, Маскоўскі Патрыярхат, імкнучыся падпарадкаваць сабе праваслаўную частку сьвету, дзее на манер дарэвалюцыйнага Сыноду, а разам і Палітбюро ВКП(б) і замест пашаны да нацыянальных асаблівасьцяў народаў, што апынуліся пад ягонай акупацыяй, ставіць за галоўнае ягонае заданьне іхную русыфікацыю, найлепшы прыклад на што Беларусь.

Спадзявацца на прабуд сумленьня і на прасьбу прабачэньня за злачынствы над собскмі вернікамі й над вернікамі заваяваных праваслаўных цэркваў, ды іншых веравызнаньняў, дарэмна, бо гэта ня ў воўчай натуры гэтых натхняльнікаў імпэрыялізму.

Найлепшы прыклад гэтае немагчымасьці - падарожжа мінулым летам Маскоўскага Патрыярха Аляксія II па паўдзённай Беларусі ў пару папавага побыту на Украіне, калі ён ня дужа займаўся рэлігійнымі настаўленьнямі, а больш авеянай пасавецкай настальгіяй вялікадзяржаўнай расейскай прапагадай ды ўзнагароджваў службоўцаў бясьпекі.

Прамовіць хоць слова на створанай Богам беларускай мове гэты хвальшывы пастыр Беларускага Народу не спрамогся.

Кантраст паміж дзейнасьцяй папы Яна Паўла II і Маскоўскага Патрыярха Аляксія II й ягонага экзарха ў Беларусі спакушае дзе-якіх беларускіх праваслаўных вернікаў ісьці ў каталіцтва, ці вунію.

Розныя абліччы гэтых далёкіх ад нашага краю й ягоных інтарэсаў царкоўных манархіяў, ня довад, аднак, што іхнае ўмацаваньне на Беларусі карыснае нашаму Народу таксама, як ўзнаўленьне роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ НА ЎНІВЭРСЫТЭЦЕ Ў ЛІДС (LEEDS) У АНГЛІІ

Ад 25 да 28 чырвеня 2001 г. на ўнівэрсытэце ў Лідс, у Англіі, адбывалася міжнародная канфэрэнцыя прысьвечаная тэме "Праваслаўнае Хрысьціянства й Сучасная Эўропа". Ейнымі арганізатарамі былі: Цэнтар Расейскіх, Эўразійскіх і Цэнтральна Эўрапэйскіх Дасьледаваньняў Лідскага Унівэрсытэту, Інстытут Усходняга Хрысьціянства Каталіцкага Унівэрсытэту ў Німэгэн, у Галяндыі, ды Міжунівэрсытэцкі Інстытут Місыялагічных і Экумэнічных Дасьледаваньняў у Утрэхце, таксама ў Галяндыі.

На канфэрэнцыю зьехалася больш як 100 дэлегатаў з гэткіх розных краёў як Грэцыя, Украіна, Японія й Валія. На атрыманыя БАПЦ запросіны у ёй браў удзел а. ігумен Дэньёл. Нажаль, дзеля недастатковасьці часу, не ўдалося прадставіць пісьмовы зьвест на актуальную для нашае Царквы тэму.

Канфэрэнцыя складалася з чатырох галоўных і дадатковых што-дня зьвестаў на розныя тэмы, ды дыскусыяў над імі. Галоўныя зьвесты чыталі: прэзыдэнт Пантыфікальнае Рады дзеля Пашырэньня Хрысьціянскага Адзінства - кардынал Адвард Кассіды, вікарны япіскап Маскоўскага Патрыярхату ў Англіі Сяргей, ігумен Іларыён з Адзьдзелу Вонкавых Дачыненьняў Маскоўскага Патрыярхату й праф. Калін Янак'яў із Сьв. Клімэнтаўскага Унівэрсытэту ў Софіі. З дадатковымі зьвестамі выступалі сьвятары й акадэмікі з традыцыйных праваслаўных краінаў, праваслаўныя навучоныя з Эўрапэйскіх дзяржаваў, асабліва з Англіі й Галяндыі, ды ўрэшце студэнты-дасьледчыкі.

Ізь зьвеставых тэмаў варта ўспомніць справу экумэнізму, прадстаўленую кардыналам Кэссыды, пытаньне повязі Праваслаўя з нацыянальнай сьведамасьцяй вылажанае а. Яраславам Буцёрам з Канады і праф. Хрыстасам Цыронісам з Тэсалонікаў ды зробленае іг. Іларыёнам Алфеявым высьвятленьне дакумэнту Сацыяльнае Дактрыны, што нядаўна быў прыйняты Маскоўскім Патрыярхатам.

Зьвест праф. Цыроніса зьвярнуў увагу тым, што ён вельмі адкрыта й сумленна прадставіў пытаньне Праваслаўя й нацыянальнае сьведамасьці на прыкладзе Грэцыі. А. ігумен Дэньёл пазьней дыскутаваў гэтую справу з праф. Цыронісам яшчэ болей і запрасіў яго наведаць Валійскую Праваслаўную Місыю ды прачытаць ягоны зьвест каля 300 грэцкім студэнтам Валійскага Унівэрсытэту, якімі Місыя апякуецца.

Ня менш цікавым быў зьвест іг. Іларыёна, у якім ён закрануў справы нядаўна ўчыненых Маскоўскім Патрыярхатам кананізацыяў, дачыненьняў Патрыярхату зь іншымі хрысьціянамі ды спрабаваў растлумачыць прыйняты Патрыярхатам Дакумэнт Сацыяльнае Дактрыны, першае гэткае дэклярацыі зробленае якоюю-колечы Праваслаўнаю Царквою.

Зьвест іг. Іларыёна выклікаў шмат пытаньняў да яго, а ўсьлед за імі й ажыўленую дыскусыю. Нажаль амаль на ўсе пытаньні, пачынаючы ад вайны ў Чэчні, ён ухіліўся даць выразныя адказы. Калі а. Дэньёл спытаў яго праз дапушчэньне Дакумэнтам Сацыяльнае Дактрыны магчымасьці сьмяротнага пакараньня іг. Іларыён сказаў, што гэта

# ПАДАРОЖЖЫ ПА ПРАВАСЛАЎНЫМ СЬВЕЦЕ

Кіраўнік Валійскае Праваслаўнае Місыі БАПЦ а. Ігумен Дэньёл, дзякуючы ягоным шырокім знаёмствам і сувязям у царкоўных колах, амаль што-год наведвае ўсё іншыя праваслаўныя краі ды цэрквы.

У 1998-м годзе ён быў у Румыніі, дзе знаёміўся з жыцьцём Румынскае Праваслаўнае Царквы ды знаёміў румыскае духавенства й вернікаў зь дзейнасьцяй БАПЦ і Валійскае Праваслаўнае Місыі.

У травені-ж 2000-га году а. Дэньёл наведаў адразу аж тры краёвыя праваслаўныя цэрквы, а гэта ў Грэцыі, Македоніі й Албаніі.

Падарожжа ў Грэцыю адбылося дзеля заахвочаньня прыяцеляў і дабрадзеяў Валійскае Праваслаўнае Місыі й выяўленьня ім удзячнасьці за атрыманую дапамогу, ды большага зацікаўленьня іх дзейнасьцяй Місыі й БАПЦ.

Адвед у Албанію вынік із запросінаў а. Дэньёлу ад Албанскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы выступіць ізь зьвестам на Канфэрэнцыі Праваслаўнае Моладзі ў месьце Дурэс.

Перад падарожжам а. Дэньёл атрымаў яшчэ ад Я.М. Мітрапаліта Ізяслава даручэньне заехаць у Македонію ды перадаць ліст Архіяпіскапу Ахрыдзкаму й усяе Македоніі Сьцяпану, а таксама прадставіць яму дзейнасьць БАПЦ.

У Грэцыю а. Дэньёл прылецеў 12-га траўня і прабыў у Афінах ды ваколіцы, а таксама ў Тэсалоніках да 17-га.

За гэты час ён сустрэўся йз шматлікімі прыяцелямі Валійскае Праваслаўнае Місыі, як сярод грэцкага духавенства, гэтак і вернікаў, наведаў некалькі цэркваў, манастыроў і сьвятых мейсцаў, выступаў зь лекцыямі й прамовамі, ды быў пачэсным госьцям на ўрачыстасьцях і ў прыватных дамох.

Між іншым а. Дэньёл, разам з заступнікам мэра Ільёпальскае чаткі Афінаў, разрэзаў істужку пры адчыненьні выставы бізантыйскіх іконаў.

15-га траўня а. Дэньёл зь Пірэю падаўся параплавам на абток Эгіна, дзе пагасьціўшы ў мяйсцовага сьвятара, наведаў два тамнія манастыры.

17-га траўня а. Дэньёл паехаў цягніком у Тэсалонікі, адкуль, пасьля гасьціны у знаёмых, узноў цягніком накіраваўся ў Македонію.

Прыбыўшы позна ў начы ў Скоп'е, а. Дэньёл пасьля кароткага адпачынку ў гатэлі агледзеў імпазантны, пабудаваны ў мадэрным стылі, але з захаваньнем мяйсцовага характару будынак катэдральнага сабору, у якім шмат іконаў македонскіх сьвятых.

Із сабору, цераз надворак, а. Дэньёл накіраваўся ў Адміністрацыйную Гасподу Македонскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, дзе пазнаёміўся зь некалькімі працаўнікамі ды, замест падарожнага ў ЗША Галавы Македонскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Архіяпіскапа Сьцяпана, быў прыйняты Мітрапалітам Палогу й Куманава Кірылам.

Уладыка Кірыла, апошні жывы яшчэ з тых трох япіскапаў, што падпісалі аўтакефалію Македонскае Праваслаўнае Царквы, зь цікавасьцяй і сымпатыяй выслухаў інфармацыю праз БАПЦ.

Із свайго боку ён прадставіў стан Македонскае Царквы, што пасьля абвешчаньня аўтакефаліі значна ўзрасла й ўзмацнела, ды цяпер мае ўжо 10 япіскапаў, а таксама духоўную сэмінарыю, манастыры й сотні сьвятароў ды парахвіяў, у тым ліку й у ЗША.

Македонская Аўтакефальная Праваслаўная Царква таксама вядзе перамовы з Канстантынопальскім Патрыярхатам у справе зацьверджаньня ейнае аўтакефаліі й атрыманьня томаса, але калі гэтыя гутаркі завершацца цяжка сказаць.

Мітрапаліт Кірыла загадаў прысутнаму дыякану запісаць рапарт з атрыманае ад а. Дэньёла інфармацыі праз БАПЦ і прыабяцаў падаць гэты рапарт на разваґу Сьв. Сыноду на наступным паседжаньні.

На разьвітаньне Уладыка Кірыла й а. Дэньёл абмяняліся сьціплымі падаркамі: запісамі царкоўнае музыкі.

Увечары а. Дэньёл паехаў із Скоп'я ў Тэтава, дзе перасеў на начны аўтобус, што йшоў праз Балканы ў Тырану - 10-ці гадзіннае падарожжа.

Прыбылога ў Тырану раніцай 19-га траўня а. Дэньёла сутрэлі айцец Лукаш Вэроніс - рэктар Багаведнае Калегіі Устаньня з Умерлых у месьце Дурэс і сп. Мэдвін Робэртс - выкладчык патрыстыякі ў калегіі й парахвіянін а. Дэньёла, што адбываў там двохгадовую службу Царкве.

Зь імі й іншымі школьнымі службоўцамі а. Дэньёл паехаў у калегію, што знаходзіцца ў нядаўна пабудаваным прыгожым камплексе будынкаў вонках места Дурэс.

Да калегіі прылягае таксама новапабудаваны манастыр сьвятога Улаха.

Увесь камплекс будынкаў стаіць на узгорку, зь якога відно навакольныя роўнядзі. Як і ўсе будынкі пабудаваныя, ці перабудаваныя Албанскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою, ён адзін з найлепшых аб'ектаў, якія можна пабачыць ў Адбаніі.

А. Дэньёл, атрымаўшы на прыпынак манастырскую келію, агледзеў з гаспадарамі калегію, а пасьля

## КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ЛІДС

(ПРАЦЯГ З 5-Е БАЧ.)

пытаньне адчыненае да далейшае дыскусіі, але ў дыскусію ня ўступіў, а з пазьнейшае размовы зь ім вынікла, што Расейская Праваслаўная Царква згубіла маральнае павадырства ў гэтай справе ды ўвяла ў ейны Дакумант Сацыяльнае Дактрыны дагодны дзяржаве прынцып.

Пасьля зьвестаў і дыскусыяў над імі а. Дэньёлу заставалася яшчэ даволі часу, каб пазнаёміцца й пагутарыць зь іншымі удзельнікамі, ды сустрэцца з даўнімі знаёмымі, як ведамы Сыр'яцкі навуковец архім. Мадэст з Манчэстару.

Сярод новых знаёмстваў можа найважнейшай была сустрэча з працаўнікамі Кэстонскага Інстытуту, прэстыжнае ўстановы, што дзесяцігодзьдзямі сачыла за рэлігійным жыцьцём у СССР, ды сочыць за гэтым жыцьцём у пасавецкіх рэспубліках цяпер.

Падсумоўваючы трэба сказаць, што канфэрэнцыя ў Лідс была выдатнай, добра зарганізаванай падзеяй і ўдзел у ёй прадстаўніка БАПЦ побач з прадстаўнікамі іншых аўтакефальных праваслаўных цэркваў быў карысны для нашае Царквы.

полудня паехаў зь імі на канфэрэнцыю, што адбывалася ў даволі занядбаным гатэлі каля марскога пляжу ў Дурэс.

Тэмай канфэрэнцыі, на якой прысутнічалі нятолькі сэмінарысты, але й студэнты-хрысьціяне з Тыранскага ўнівэрсытэту было пытаньне "Куды йдзем?". Пачалася яна малебнам, пасьля якога а. Дэньёл правёў першую гутарку, у якой гаварыў праз манаскае пакліканьне й адзінотнае жыцьцё паміж людзьмі, ці ўводдадь ад іх, як пакліканьне любіць Бога й бліжняга.

Пасьля гутаркі была вячэра, а ўсьлед за ёю паказ студэнцкае мастацкае самадзейнасьці.

Другі дзень канфэрэнцыі, 20-га травеня, пачаўся наведаньнем старое царквы ў сяле каля Дурэс, дзе, пасьля пікніку, выкладчык калегіі, амэрыканец грэцкага паходжаньня, правёў другую гутарку.

Паміж гэтым усім было даволі вольнага часу, які а. Дэньёл скарыстаў на гутаркі йз студэнтамі, у якіх яны апавядалі як сталі хрысьціянамі, хоць гадаваліся пад камуністычнай дыктатурай, калі ўсе цэрквы былі зачыненыя, а рэлігійныя сьвяткаваньні забароненыя.

Большасьць зь нарадзілася ў праваслаўных сем'ях, дзе найбольш бабкі захоўвалі хрысьціянскія традыцыі, фарбуючы, напрыклад, яйка на Вялікдзень, ды закопваючы скарлуп'е пасьля спажытку, бо за гэта пагражала доўгае зьняволеньне.

Пасьля павароту, у манастырскай царкве была вячорная адправа, на якой сьпявалі студэнцкія хоры, а пасьля адбылася трэйцяя гутарка канфэрэнцыі.

На наступны дзень, 21-га травеня, удзельнікі канфэрэнцыі былі на ранічні й Сьв. Літургіі ўва ўзноў адчыненай Сьв. Юр'еўскай царкве ў Дурэс, дзе пазнаёміліся й пагутарылі з кіраўнікам парахвіі, ды з парахвіянамі.

Пасьля полудня а. Дэньёл меў сустрэчу з былой сэмінарысткай і ейнай сяброўкай-францускай, што працуюць ў арганізацыі *Medicine de Monde*, і пры гэтай нагодзе даведаўся яшчэ шмат больш праз жыцьцё пры камунізьме.

На заканчэньне дня ў калегіі была адправа павячэрра.

22-га травеня, пасьля ранічні, а. Дэньёл, дзеля адсутнасьці выкладчыка, быў запрошаны прачытаць лекцыю ў адной з клясаў сэмінарыі, тэмай на якую ён выбраў валійскую царкоўную гісторыю.

На гэтым побыт а. Дэньёла ў Дурэс скончыўся й ён паехаў у Тырану, дзе агледзеў царкоўную радыястанцыю ды даў прынагоднае інтэрв'ю.

23-га травеня з адным з працаўнікоў радыястанцыі а. Дэньёл агледзеў царкоўную клініку ў цэнтры Тыраны, што месьціцца ў вялікім мадэрным будынку й абсталяваная мадэрнай мэдыцынскай тэхнікай ды абслугоўваецца ахвярным праваслаўным пэрсаналам. У клініцы ёсьць невялікая, аздобленая прыгожымі фрэскамі капліца.

Пасьля паўдня, з а. Вэронісам, а. Дэньёл паехаў у Тыранскі ўнівэрсытэт, дзе на адкрытым паветры правёў з студэнтамі гутарку таго тыдня, на тэму царкоўнае дзейнасьці ў Валіі і праблемаў, зь якімі Праваслаўная Царква сустракаецца на Захадзе. Дапаўненьні да гутаркі зрабіў сп. Робэртс.

У канцы дня а. Дэньёл быў запрошаны ў дом а. Вэроніса на вячэру.

24-га травеня раніцай, дзякуючы дапамозе а. Вэроніса, а. Дэньёлу пашчасьціла быць прыйнятым Я.М. Анастасам, Архіяпіскапам Тыранскім і ўсяе Албаніі.

Архіяпіскап Анастас ведамы зь ягонае дзейнасьці як кіраўнік місыйнага адзьдзелу Грэцкае Праваслаўнае Царквы й місыянэр ў Афрыцы, пасьля ўпаду камуністычнае ўлады ў Албаніі быў прызначаны Канстантынопальскім патрыярхам на пасад албанскага экзарха.

Пад ягоным кіраўніцтвам Албанская Праваслаўная Царква за кароткі час адрадзілася, сотні цэркваў былі адноўленыя або пабудаваныя, адчыніліся манастыры й Багаведная Калегія ў Дурэс. Царква мае таксама школы й успомненую ўжо клініку, ды гэтым значна дакладаецца да палепшаньня жыцьця ў зруйнаванай камуністамі краіне.

Сустрэча з гэтак выдатным, але сьціплым герархам, што адбылася ў Галоўнай Гасподзе Архіяпархіі, была вялікім гонарам і прайшла ў прыхільнай атмасфэры, зайняўшы каля гадзіны.

За гэты час архіяпіскап Анастас дакладней пазнаёміў а. Дэньёла з жыцьцём Албанскае Праваслаўнае Царквы й папрасіў яго запрасіць пару маладых людзей у Англію на навуку й практыку ангельскае мовы, што й было яму прыабяцанпе.

На заканчэньне архіяпіскап Анастас падарыў а. Дэньёлу тры відэа-касэты, што адлюстроўваюць жыцьцё Албанскае Праваслаўнае Царквы й уручыў сьціплы падарак для Я.М. Мітрапаліта Ізяслава.

Пасьля сустрэчы з архіяпіскапам Анастасам, праводжаны працаўніком архіяпархіі а. Дэньёл, агледзеў будынак у прыгарадзе Тыраны, дзе знаходзіцца фабрыка сьвечак, сталярская майстэрня, ды іканапісная й мазайкавая студыі

На гэтым албанская частка падарожжа а. Дэньёла скончылася й ён адлецеў самалётам у Афіны.

Там на лётаве яго сустрэлі прыяцелі й адразу павязьлі ў тэатр "Глорыя" ў цэнтры места, каб пасьпець на пачатак паказу п'есы "Чаканьне на чуда". У фае тэатру апякунка й памочніца Валійскае Праваслаўнае Місыі сп-чня Касьні Мазаракі наладзіла выстаўку, што паказвала дзейнасьць місыі. Прыбытак з паказу п'есы акторы, што часта робяць выступы на карысьць царкоўных мэтаў, ахвяравалі а. Дэньёлу на аднаўленьне царквы Валійскіх Сьвятых у Блаэнаў.

Далей, пару разоў на працягу вечара, а. Дэньёл меў нагоду сказаць слова празь дзейнасьць Валійскае Праваслаўнае Місыі, прамаўляў таксама й аўтар п'есы Ксантула Папутсі.

Пасьля гутарак з гледачамі а. Дэньёл быў запрошаны імі на пачастунак у рэстаране.

Назаўтра, 25-га травеня, а. Дэньёл паехаў у манастыр Пятракі, дзе знаходзіцца адміністрацыйная гаспода Місыянэрскае Арганізацыі Грэцкае Праваслаўнае Царквы "*Апостолікі Дыяконія*", а таксама працуе царкоўная радыястанцыя.

Там яго сустрэў а. Канстантын Страгіпаўлос, што вядзе місыянэрскія праграмы й які ўзяў у а. Дэньёла інтэрв'ю праз гісторыю хрысьціянства ў Валіі й сучасную місыю Праваслаўнае Царквы.

А. Канстантын таксама папрасіў а. ігумена Дэнь-Дэньёла напісаць артыкул праз Валійскую Права-

слаўную Місыю ў квартальны місыянэрскі часапіс "*Панта Та Этні*" (Усе Народы).

Пасьля гэтага а. Дэньёл заехаў яшчэ ў Сынайскі мэтахіён, дзе яго прывітаў даўні знаёмы, першагерарх Сынайскае Аўтаномнае Праваслаўнае Царквы, архіяпіскап Дам'янос.

Пасьля цікавае гадзіннае гутаркі й дыскусыі з архіпастырам а. Дэньёл атрымаў ад яго ў падарак кнігу "*Жыцьці Сынайскіх сьвятых*" ды разьвітаўшыся зайшоў у краму ў мэтахіёнаўскім камплексе, каб купіць падаркі прыяцелям у Валіі.

Назаўтра, 26-га травеня. а. Дэньёл наведаў школу ў Ільюпалісе, дзе атрымаў падараваныя архімандрытам Ананям у ягоную царкву іконы.

На гэтым падарожжа а. Дэньёла закончылася й ён адлецеў у Манчэстар у Англіі.

- * -

У сьнежні 2000 г. а. Дэньёл із сп. Мэдвінам Робэртсам, празь якога было ўжо ўспомнена раней, наведалі даўні Канстантынопаль, ці цяпер Істанбул, дзе затрымаліся ў малым гатэлі зараз-жа каля царквы Сьвятое Сафіі.

Дзівотны ягонай велічай і прыгаством будынак, ды ўспамін выдатных падзеяў царкоўнае гісторыі, што адбываліся ў ім, узрушаюць сэрцы ўсіх праваслаўных хрысьціянаў, якім шчасьціць яго пабачыць.

А. Дэньёл і сп. Робэртс прыехалі ў Канстантынопаль якраз у пару, калі ў Патрыярхаце была сустрэча галоваў Цэркваў з традыцыйных праваслаўных краёў і а. Дэньёл з сп. Робэртсам былі хоць і не афіцыйнымі, але адзінымі гасьцьмі з Захаду.

У сыботу, 23 сьнежня, яны наведалі гасподу Сусьветнага Патрыярхату ў Фанары (тур. Фэнэр), дзе былі накіраваныя ў канцылярыю пратасінгела.

Чакаючы там на прыймо, ім пашчасьціла сустрэцца з патрыярхам Александрыйскім, некалькімі мітрапалітамі й іншымі герархамі, ды з самым Сусьветным патрыярхам Баўтрамеям.

Пасьля гутаркі з пратасінгелам дыякан Максімос, што вучыцца ў Лёндане, запрасіў нашых гасьцей на полудзень у сталовай Патрыярхату, а пасьля выстараўся ім білеты на экскурсыйны аўтобус у Нікею.

Увечары у Сьв. Юр'яўскім патрыяршым саборы вячорню паарабскі служыў Антыяхійскі патрыярх.

У нядзелю, 24-га сьнежня, ранічню й Сьв. Літургію правіў Сэрбскі патрыярх Павле.

Пасьля адправаў у патрыяршых пакоях быў пададзены пачастунак, падчас якога а. Дэньёл змог узноў пагутарыць з Тыранскім архіяпіскапам Анастасам, а таксама пазнаёміўся й меў размову з архіяпіскапам Сымонам і мітрапалітам Савам з Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Для абодвых бакоў сустрэча была нечаканая й у гутарцы польскія герархі зь цікавасьцяй выпытвалі праз жыцьцё й дзейнасьць БАПЦ.

А. Дэньёл пазнаёміўся яшчэ зь мітрапалітам Мікалаям, першагерархам Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Чэхіі й Славакіі, ды меў гутарку з раней ужо знаёмым Букавінскім мітрапалітам Данілам з Румынскае Праваслаўнае Царквы.

Пасьля пачастунку госьці наведалі некалькі гістарычных цэркваў у Істанбуле, ды вярнуліся на вячорню, што правіў Румынскі патрыярх Феактыст.

У панядзелак, 25-га сьнежня, а. Дэньёл захварэў ня змог нікуды паехаць.

Затое аўторак, 26-га сьнежня, выдаўся багаты на падзеі й уражаньні, бо ў гэты дзень першагерархі праваслаўных цэркваў мелі разам служыць Сьв. Літургію ў даўняй Нікеі (патурэцку Ізнік), дзе адбыўся I-шы Сусьветны Сабор, на якім быў складзены Выяў Веры.

Перад Нікеяй з аўтобуса трэба было перасесьці на плыўно, каб пераехаць вялікае возера, дзе ў самым месьце, у руінах Сьв. Сафійскае царквы герархі правілі Сьв. Літургію.

Адправу ачоліў Сусьветны Патрыярх Баўтрамей, а служылі зь ім усе прыездныя першагерархі, некалькі япіскапаў, тры сьвятары й два дыяканы.

Мяйсцовых маленьнікаў на адправе ня было, а толькі тыя, што прыехалі з Канстантынопаля, бо ў Нікеі й навакол яе толькі турэцкае насельніцтва, немалая грамада якога зыйшлася вакол мейсца, дзе была адправа й павагай сачыла за ўсім, што дзеялася.

Ніколі нябачаная ўрачыстасьць і краса праваслаўнае адправы зрабіла на іх вялікае ўражаньне й яны радасна віталі гасьцей - трэба сказаць, што туркі наагул прыемныя й ветлівыя людзі.

А. Дэньёлу йз сп. Робэртсам пашчасьціла апынуцца падчас адправы блізка Патрыярха й яны зрабілі шмат здымкаў, а зараз-жа пасьля Божае Службы а. Дэньёл меў нагоду пагутарыць з архіяпіскапам Сымонам й Пэргамскім мітрапалітам Янам (ведамым багаведам - прафэсарам Янам Зізюлісам).

Усьлед за адправай герархі, духавенства й маленьнікі паехалі ў недалёкі гатэль, дзе іх чакаў багаты пачастунак.

А. Дэньёл із сп. Робэртсам сядзелі блізка галоўнага стала ў таварыстве двох англіканскіх сьвятароў з Канстантынопаля, Адзін зь іх, канонік Шэрвуд выявіў сябе выдатным знаўцом праваслаўнага царкоўнага жыцьця ў Турцыі й даў суразмоўцам шмат цікавае інфармацыі.

Пасьля пачастунку а. Дэньёл меў гутаркі з Румынскім патрыярхам Фэактыстам, Баўгарскім патрыярхам Максімам, мітрапалітам Мікалаям з Прагі й іншымі япіскапамі.

Вярнуўшыся ў Істанбул, вечарам а. Дэньёл пайшоў у гатэль, дзе затрымаліся прыехалыя герархі, і ўзноў меў гутарку з польскімі герархамі: мітрапалітам Савам і архіяпіскапам Сымонам, які сам з паджаньня поў-беларус. Абодвы янны вельмі цікавіліся БАПЦ.

У сераду, 27-га сьнежня, а. Дэньёл узноў наведаў Патрыярхат у Фанары, каб перадаць Патрыярху Баўтрамею ліст ад Я.М. Мітрапаліта Ізяслава.

Ліст прыйняў дыякан Максім і запрасіў а. Дэньёла на полудзень у сталовай патрыярхату, дзе зноў надарыла пазнаёміцца з колькіма духаўнікамі.

Пасьля гэтага а. Дэньёл із сп. Робэртсам наведалі яшчэ ў Сырыйскім Катэдральным Саборы мітрапаліта Філаксена, зь якім сп. Робэртсу, як сырыйскаму дасьледчыку было цікава пагутарыць.

Прысьвяціўшы яшчэ пару дзён на агляд Істанбулу а. Дэньёл і сп. Робэртс у канцы тыдня вярнуліся дамоў.

*Скарочаны пераказ*
*паводле дзёньніка а. Дэньёла*

што займалі высокія дзяржаўныя становішчы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Сярод іх - Багдан Агінскі, Ашмянскі староста Мікалай Зяновіч, Гарадзенскі староста Рыгор Хадкевіч, ягоны брат, сябра рады Вялікага Княства Літоўскага Юры Хадкевіч, Менскі ваявода Багдан Сапега, Наваградзкі ваявода Хведар Скумін-Тышкевіч, князі Хведар і Васіль Мсьціслаўскія, Ян Карэцкі, Багдан Саламярэцкі, Аляксей Лахціновіч.

Блізкі да канцлера Астапа Валовіча праваслаўны шляхціч Васіль Гарабурда собскім коштам заснаваў у 1580-1582 г.г. у Вільні друкарню, сам вучыўся як выдаваць кнігі. Мэту ягонае працы В. Гарабурда тлумачыў патрыятычным жаданьнем забясьпечыць усіх праваслаўных грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага неабходнай літаратурай. Упадабаўшы простасьць афармаваньня кнігаў, друкар адзначаў, што сьвятыя кнігі поўныя годнасьці ў кожным выпадку, як мёд, будзь ён у серабраных кубках, ці ў дрэўнай кары.

У традыцыйнай гістарыяграфіі павялося лічыць XVII стагодзьдзе ў Беларусі парою паланізацыі й лацінізацыі "палітычнага" народу - шляхты й мяшчанаў. Аднак, да канца гэтага стагодзьдзя шляхта Вялікага Княства Літоўскага пісала дыпляматычныя граматы пабеларуску. Паводле рэестру *("Имянослову")* Магілёўскага праваслаўнага брацтва "Святого въехания Господня" за 1664 год сябрамі брацтва былі наступныя магнаты Вялікага Княства Літоўскага: Багдан Вільгэльм Сьцяткевіч, Іван і Марцін Агінскія, князі Хадкевічы, Паскевічы, Саламярэцкія. У праваслаўных выданьнях XVII ст. захаваліся напісаныя на старабеларускай і царкоўнаславянскай мове панэгірыкі, прысьвячаныя мэцэнатам, прадстаўнікам княскіх родаў Вішнявецкіх, Саламярэцкіх, Агінскіх, Хадкевічаў, Валовічаў, Дравінскіх, Сапегаў, Максімовічаў-Ломскіх, Кісялёў, Трызнаў, Сьцяткевічаў, Гарбацкіх. Багдан Сьцяткевіч у XVII стагодзьдзі заснаваў у Куцейне (каля Воршы) буйны навуковы цэнтар, у якім працавала школа, група перакладнікаў і багаведаў, ды друкарня.

Ня гледзячы на сілковае пашырэньне вуніі, у XVII стагодзьдзі захоўваўся прынцып права Вялікага Княства Літоўскага, паводле якога палову мейсцаў у мескіх самаўрадах павінны былі займаць багатыя праваслаўныя мяшчане. Гэтак, у 60 гадох таго стагодзьдзя бурмістрам Берасьця быў праваслаўны купец Хвелар Глагалевіч. У тую-ж пору бурмістрам сталічнае Вільні быў праваслаўны беларус "пан Прокоп Доропеевіч", а настаяцелям Сьвята-Духавага манастыра - ягоны брат айцец Даніла Дарапеявіч. Дэлегацыю ад "усіх віленскіх мяшчанаў", што ў 1658 годзе прыбыла ў Маскву, ачольвалі сябры магістрату праваслаўныя беларусы "войт Есип Петров", ужо ўспомнены "райца Прокоп Дорофеев" ды "местский писар Миколай Кастровицкий".

Важныя дзяржаўныя становішчы й падтрыманьне магнатаў дазвалялі праваслаўным мяшчанам прававдаўна ўстрымоўваць націск вуніятаў. У 1675 годзе праваслаўныя войты й бурмістры Менску праз суд не дапусьцілі вуніятаў стаць сябрамі магістрату. Яшчэ ў 1697 годзе вуніяты ў Вільні прагралі справу ў судзе, што аспрэчвала права праваслаўных рамесьніцкіх і купецкіх старшыняў займаць вядныя мейсцы ў ратушы. Больш таго, у 1639 годзе цэх берасьцейскіх шаўцоў з цэхмістрам Рыгорам Рыгоравічам, кінуўшы вунію й вярнуўшыся ў Праваслаўе, дамогся ўважаньня іхнае пастановы ў судзе.

Бастыёнам Праваслаўя ў Рэчыпаспалітай быў Магілёў - цэнтральная рэзыдэнцыя япіскапа, дзе мяшчане праваслаўнага веравызнаньня й шляхта цалком кантралявалі ўладу ў месьце. Паводле словаў расейскага стольніка П.А. Талстога, што наведаў места ў 1697 годзе, "усе Магілёўскія мяшчане добрачэсьцьнае веры ... людзі добрыя й вельмі багатыя, а тое места Магілёў паводле каралеўскіх прывілеяў вольнае места, а кароль Магілёўскіх мяшчанаў ў нічым не чапае, а ўва ўсялякіх справах іх судзіць войт".

Уклад праваслаўных мяшчанаў ў гісторыю Царквы значны. Багатыя беларускія купцы XVII стагодзьдзя былі буйнымі мэцэнататамі, собсьнікамі абшырных кніжных збораў. Гэтак, у зборы Віленскага бурмістра Сьцяпана Лябедзіча знаходзілася Астрожская Біблія, Апостал Францішка Скарыны, праваслаўныя службоўнікі, розная лацінская літаратура. Сябры Магілёўскага магістрату Трахім Раманаў Сурта й Рыгор Юр'яў Трубніцкі стварылі шэдэўр беларускага летапісьменства XVII-XVIII стагодзьдзяў - "Хроніку Магілёва", у якой зьмешчаны рад вестак зь гісторыі Праваслаўя.

Нажаль, пунктам адліку ліквідацыі ўплыву Праваслаўя ў дзяржаўных структурах Вялікага Княства Літоўскага стала вайна 1654-1667 гадоў паміж Расейскай дзяржавай і Рэчпаспалітай. У ходзе ваенных дзеяў Праваслаўе было выкарыстоўванае абодвамі бакамі як палітычная карта. Апрача таго, у Расею было вывезена рад сьвятыняў беларускага Праваслаўя, чудатворная ікона Полацкае Божае Маці, Віленская чудатворная ікона Божае Маці. У Мураме апынуўся чудатворны "Віленскі крыж". Патрыярх Нікан цалком перавёз на Валдай буйнейшы культурны цэнтар Беларусі XVII стагодзьдзя - Куцеінскі манастыр. Галаньдзец Ніколаас Вітсэн, што наведаў *(куцеінскіх - Рэд.)* манахаў, заўважыў што "у гэтых чужынцаў *("ліцьвіноў" - Аўт.)* зусім іншы лад жыцьця, як у расейцаў; яны вельмі ветлівыя й ня так забабонныя. Калі мы ўвайшлі ў царкву, яны сказалі нам: "Мы добра ведаем, што вы ня даяцё пашаны, як мы". Ня прымусілі нас да вонкавае пабожнасьці і нават ня прымусілі зьняць у царкве капялюшы, а сказалі: "Вось, глядзеце на ўсё гэта й захавайце вашую веру для сябе, мы ня гэтак налягаем на вонкавыя звычаі, як нашыя браты, з роду расейцы". Падарожнік заўважыў веданьне праваслаўнымі манахамі лаціны, іхнюю адрозную кухню.

Пасьля вайны з радоў Праваслаўя выходзяць прадстаўнікі беларускае шляхты. Напрыклад, каталікамі становяцца староста Магілёўскага брацтва буйнейшы магнат Марцін Агінскі й лідэр Віленскага брацтва Сымон Агінскі. Застаўшыся "без опеки и обороны", апынуліся ў жорсткім прыцясьненьні праваслаўныя манастыры. За стратай палітычнага падтрыманьня неадкладна пайшлі рэпрэсіі з боку каталікоў Рэчыпаспалітае. У 1673 годзе праваслаў-

ныя былі пазбаўленыя права набілітацыі *(атрыманьня шляхоцтва)*, у 1676 - забаранілі вольны выязд за мяжу, у 1699 была выдадзеная забарона займаць вышэйшыя становішчы ў мескіх управах.

9-ты артыкул "Вечнага міру" *(паміж Расеяй і Рэчпаспалітай - Рэд.)* дэкляраваў апеку з боку Расеі праваслаўным Вялікага Княства Літоўскага. У 1696 годзе ўся новая афіцыйная дакумэнтацыя Вялікага Княства Літоўскага была пераведзеная на польскую мову. Гэтая мера, часткова, была штучнай спробай поўнае ліквідацыі беларускае пісьменнасьці. Аднак, якраз наконадні праваслаўныя бурмістры стольнае Вільні "панове Стефан Мороз и Миколай Огурцевич", робячы вопіс мяшчанскае часткі места, склалі тэкст на роднай беларускай мове.

Страціўшы падтрыманьне сьвецкае ўлады Вялікага Княства, Праваслаўная Царква ў Беларусі ў XVIII стагодзьдзі ўступіла ў паласу працяглага крызысу, захоўваючы за сабою адно рэгіён Магілёва, Мсьціслаўля й Воршы. Вернасьць Праваслаўю й нацыянальным традыцыям захавалі да XX стагодзьдзя *(дакладней, да пачатку пары сталінскіх рэпрэсыяў)* патомкі дробнае Пінскае, Слуцкае й Магілёўскае шляхты.

На заканчэньне заўважым, што гісторыку Царквы трэба адрозьніваць разуменьні "гістарычнае Літвы" й "Літвы этнаграфічнае". Вялікае Княства Літоўскае - гэта сярэднявечная, пераважна славянская *(беларуская - Рэд.)* дзяржава з багатай праваслаўнай культурай. Фармаваньне сучасных уяўленьняў празь Літву павязанае з пашырэньнем літоўскага *(лятувіскага, ці йнакш жамойцкага - Рэд.)* нацыянальнага руху ў канцы XIX пачатку XX стагодзьдзяў і ня мае ў сабе дастаткова аб'ектыўнае ацэны культурнае спадчыны Вялікага Княства Літоўскага.

*Др. Андрэй Котлярчук*

## АДПРАВЫ ДЛЯ ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ У ВІЛЬНІ

Нашая Царква ўжо даўно заахвочвае праваслаўных беларусаў у замежжы гуртавацца ў Ейных парахвіях, ці засноўваць свае парахвіі ў іншых царкоўных юрысдыкцыях, бо свая родная царква наймацнейшая абарона ад асыміляцыі.

Дасюль, нажаль, заахвочваньні падалі на неўрадлівую глебу, бо нават на Украіне, дзе на гэта найлепшыя ўмовы, нічога яшчэ ня зроблена.

Усё-ж, дзякуй Богу, у нашай даўняй сталіцы й калысцы беларускага адраджэньня, Вільні, праваслаўныя беларусы дамагліся частковага здаваленьня гэтае духовае патрэбы, бо, як паведаміла газэта "Рунь", там ад чырвеня ў Сьв. Мікалаяўскай царкве пачаліся сыботнія Божыя службы зь казанямі й чытаньнямі на беларускай мове, якія правіць а. Васіль Навінскі.

Нас турбуе, аднак, тое, што адправы дазволеныя беларусам толькі ў сыботы, калі цяжка спадзявацца на шмат маленньнікаў, што можа даць няпрыхільнікам прычыну, каб гэтыя адправы спыніць.

Ня гледзячы на гэтую небясьпеку, мы заахвочваем усе асяродкі нашае дыяспары йсьці сьледам праваслаўных віленчукоў і засноўваць праваслаўныя беларускія парахвіі ў мейсцах іхнага пасяленьня.

## БЕЛАРУСКІЯ КРЫНІЦЫ ЦАРКОЎНАГА ПРАВА

Наўсуперак уявы дзе-якіх быццам вернікаў, што яны могуць рабіць у царкве, што ім схочацца й абыходзіцца з духавенствам як спадабаецца, Праваслаўная Царква кіруецца паводле ўстаноўленых працягам тысяча- й стагодзьдзяў правілаў і законаў.

Сярод гэтых законаў, ці правоў ёсьць нутраныя, што Праваслаўная Царква сама ўстанавіла дзеля захаваньня парадку ў Ейным жыцьці, і вонкавыя, якімі сьвецкія ўлады вызначылі Ейнае мейсца й ролю ў грамадзкім і дзяржаўным жыцьці.

Першыя зь іх выводзяцца йзь Сьвятога Пісьма, сымбалічных кнігаў і пастановаў сусьветных сабораў.

Другія-ж, з уладавых загадаў, ці прывілеяў, што датычылі некаторых пытаньняў у дачыненьнях паміж Царквою й дзяржавай, ды няраз разьвіліся ў цэлыя праўныя сыстэмы.

Нутраныя царкоўныя правы дзеляцца яшчэ на: агульныя - абавязкавыя для ўсіх нацыянальных цэркваў, што складаюць Усходнюю Царкву ды мяйсцовыя, што датычаць паасобных краёвых Цэркваў і ўстаноўленыя імі дзеля лепшага ўжыцьцяўленьня агульных.

Вонкавых-жа, з міжнародным абсягам няма, хоць ёсьць у дэмакратычным сьвеце агульна вызнаваныя прынцыпы свабоды веры й ейнае практыкі.

У папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца" была гутарка праз царкоўныя каноны, што й ёсьць абгрунтаваным на Сьвятым Пісьме агульным царкоўным правам.

Але, калі каноны пабудаваныя на разуменьні вылажанага на грэцкай мове Сьвятога Пісьма, дык правы, што датычаць краёвых цэркваў выводзяцца зь перакладаў яго на нацыянальныя мовы, на аснове якіх фармавалася мяйсцовае ўсьведамленьне права.

Наш народ ужо нядоўга пасьля ягонага хросту займеў Сьвятое Пісьмо, сьпярша перапісванае пацаркоўна-славянску з пазнакамі мяйсцовых гаворак, а пасьля і зусім перакладзенае на нашую мову ды выдадзенае Францішкам Скарынам у адной зь першых у сьвеце друкаваных Бібліяў.

Да рэчы тут успомніць, што нашыя суседзі, украінцы, бяз цырымоніі, залічаюць Францішка Скарыну й Васіля Цяпінскага да перакладнікаў Сьв. Пісьма на ўкраіскую мову, як гэта зроблена у кнізе О. Лотоцькага "Українські джэрэла церковного права" і ў не адной яшчэ, прысьвечанай перакладам Сьв. Пісьма, ці гісторыі украінскае літаратуры працы, адкуль гэтыя прысабечваньні трапілі й у амэрыканскае бібліязнаўства.

Наступная крыніца нутраногa краёвага царкоўнага права - гэта сымбалічныя кнігі, як катэхізісы й трэбнікі, у якіх вылажаныя асновы Праваслаўнае Веры, або пададзены спосаб выкананьня тайніцаў й парадак адправаў, ды некаторыя царкоўныя правілы.

Ня менш важныя жаролы царкоўнага права й у пастановах, граматах і пасланьнях краёвых Сабораў, як у пару нашае прыналежнасьці да Кіяўскае мітраполіі. гэтак і Літоўскае, напр. Наваградзкага ў 1415, Віленскага ў 1509-1510 г.г., Берасьцейскага ў 1596 годзе ды, ўрэшце, устаноўчага для нашае аўтакефаліі Пінскага, у 1791-м годзе.

Таксама й уставы брацтваў, ды граматы ім ад

усходніх патрыярхаў - частка багацьця крыніцаў нашага царкоўнага права.

Побач зь імі й памяткі палемічнае літаратуры з пары рэлігійна-нацыянальнага змаганьня супраць наступу польскага каталіцызму й вуніі захоўваюць багаты запас асноваў царкоўнага права.

Урэшце й краёвыя царкоўныя традыцыі, ды звычаі не павінны застацца вонках увагі спадзяваных дасьледнікаў гэтае някранутае ў нас дысцыпліны.

Варта яшчэ адзначыць, што Праваслаўная Царква ў нашым краі доўгі час была часткай Кіяўскае мітраполіі й у выніку мы маем нямала супольных з украінцамі крыніцаў царкоўнага права, хоць, наўсуперак таго, што яны няраз цьвердзяць, гэтая Царква ня была ўкраінскай.

Затое ўсе загады й пастановы Расейскае Праваслаўнае Царквы, пасьля супярэчнага канонам займа ёю нашых земляў, а тымбольш пасьля ейнага падпарадкаваньня бязбожнай уладзе, да крыніцаў беларускага царкоўнага права не належаць, а ўваходзяць у дакумэнтацыю маскоўскае акупацыі.

Таксама й распараджаньні ды пастановы Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, як паслухмянае прылады польскае асыміляцыйнае палітыкі на нашых землях, ня маюць дачыненьня да беларускага царкоўнага права, хоць абгрунтаваньне ейнае аўтакефаліі дае кананічную аснову нашай.

Абярненьне ў хрысьціянства з манаршага загаду, як гэта, зрэштай, ускрозь вялося, насельніцтва вялізнае Кіяўскае імпэрыі, што была зайняўшы й нашыя сёньняшнія землі, паставіла перад гэтым манархам, князям Уладзімерам, неабходнасьць вызначэньня асноваў існаваньня Праваслаўнае Царквы й падуладнага ёй абсягу дзейнасьці дзяржаве.

З гэтае патрэбы й зьявіўся г.зв. "Устаў князя Уладзімера", які да нашае пары ў арыгінале не дайшоў, а перахоўваецца ў больш, ці менш поўных сьпісках у розных архівах.

У гэтым уставе Уладзімер, перш за ўсё, зрабіў аброк даваць дзесятую частку ягоных прыбыткаў на кіяўскую царкву Божае Маці, хоць крыніцы гэтых прыбыткаў застаюцца дасюль ня зусім ясныя.

Другая частка ўставу ўстанавіла царкоўны суд і аддала ў ягоную кампэтэнцыю справы аховы чысьціні веры, маральнасьці й сямейных дачыненьняў.

Далей устаў даручаў Царкве апеку над хворымі, нямоглымі й старымі, ды нагадваў праз патрэбу засноўваньня прытулкаў для гэтых людзей.

Урэшце устаў аддаваў пад уладу Царквы дагляд над дакладнасьцяй вагаў і мераў.

Дасьледчыкі дапушчаюць, што да пачатнага тэксту ўставу пазьней былі зробленыя розныя дапіскі.

Наступная крыніца царкоўнага права з тае даўняе пары - устаў князя Яраслава Мудрага.

Есьць дзьве рэдакцыі гэтага ўставу - маскоўская й заходня-руская, зь якіх, пэўна-ж, нас датычыць другая, бо дадзеныя паводле яе Праваслаўнай Царкве правы згадваліся пазьней у прывілеях вялікіх літоўскіх князёў і польскіх каралёў, ды пацьвярджаліся імі.

У Яраслававым уставе замацоўваецца царкоўная дысцыпліна, устанаўляюцца кары за аддадзеныя Уладзімеравым уставам у кампэтэнцыю царкоўнага суду правінавачаньні ў сямейных і маральных справах, а таксама ўводзіцца суд за "гэрэзыі".

Цікава, што ўва ўставе ў пяршыню за правінавачаньні вызначаныя грашовыя кары.

Як ведама, Кіяўская імпэрыя ня йснавала доўга, ды й пры ёй ужо ўдзельныя князі, а зь іх, ці не найбольш тыя, што валодаючы нашымі землямі, імкнуліся да вызваленьня ад цэнтру, на падтрымку гэтага імкненьня Царквою давалі ёй ўстаўнымі граматамі шчодрыя прывілеі.

Нажаль, да нашых дзён зь іх захавалася толькі грамата смаленскага князя Расьціслава з 1150 г., якою ён устанаўляў смаленскую япархію, ды вызначаў сяродкі на ейнае ўтрыманьне.

Як і ўва ўспамінаных раней уставах, у Расьціслававай грамаце у кампэтэнцыю царкоўнага суду аддадзеныя справы сямейныя і абвінавачаньні за чараўніцтва.

Пасьля заваёвы ў першай палове XIII ст. Украіны татарамі, іхныя ханы давалі Кіяўскім мітрапалітам ярлыкі, або граматы з шырокімі прывілеямі, але, паколькі татары не зайнялі нашых земляў, дык і іхнае заканадаўства ня ёсьць крыніцай нашага царкоўнага права.

Найбагацейшыя й найважнейшыя крыніцы беларускага царкоўнага права пакінула нам Вялікае Княства Літоўскае, як з пары незалежнасьці гэтае нашае даўняе дзяржавы, гэтак і з часу, калі яно, наўсуперак вуніі, захоўвала ягоную апрычонасьць у складзе Рэчыпаспалітай.

Выдатнае значаньне сярод гэтых крыніцаў маюць княжыя й каралеўскія граматы, як напр. грамата в. князя Вітаўта з 1415 г. праз адзьдзяленьне літоўскае (беларускае) царквы ад маскоўскае, грамата Уладзіслава III з 1443 г. праз зраўнаньне ў правох праваслаўнага духавенства з каталіцкім і інш.

Вялікая колькасьць дакумэнтаў з тае пары, што датычаць Праваслаўнае Царквы й ейных вернікаў, апублікаваная ў розных зборніках, выдадзеных яшчэ ў пачатку мінулага стагодзьдзя, як "Volumina legum", "Акты, относящіеся к исторіи Западной Россіи", "Акты, издаваемые Виленской Археографической Комиссіей", "Акты, относящіеся к исторіи Южной и Западной Россіи" і інш.

Калі працягнецца нядаўна пачатае выдавецтва кнігаў "Літоўскае мэтрыкі" - гэтага залатога кладзіва нашае гісторыі, багацьце адкрыцьцяў у дзядзінцы беларускага царкоўнага права й гісторыі цяжка ўявіць.

Апрача заканадаўчых актаў, за крыніцу царкоўнага права трэба ўважаць і жальбы, ці просьбы (суплікацыі) з праўнымі аргумэнтацыямі, якія праваслаўныя падавалі каралю, ці сойму ў крыўдных для іх выпадках, або цэлыя кнігі прысьвечаныя гэтай аргумэнтацыі.

Шкада, што гэтая, хай і цяжкая для нашае Праваслаўнае Царквы, але багатая на праўную творчасьць пара нашае гісторыі рана скончылася, а за ёю прыйшлі царская й бальшавіцкая тыраніі, чые беззаконьні з крыніцамі царкоўнага права нічога супольнага ня маюць.

Пара ўжо знайсьціся ў нас дасьледнікам, каб з адпаведнага багацьця крыніцаў зладзіць гісторыю нашае Царквы й навуку нашага царкоўнага права.

*Б. Шчарыч*

## ВЫВАДКІ БЛАГА

У рэдакцыйныя абавязкі ўваходзіць пісаць нятолькі праз добрыя справы, але, нажаль, і праз нядобрыя, асабліва калі, як у нашым выпадку гэтыя нядобрыя справы робяцца пад імём нашае Царквы, бо маўчаньне магло-б быць узятае за прычаснасьць да брыдкіх учынкаў і адказнасьць за іх, што відаць з таго, аб чым пішам ніжэй.

Ужо пару год, як пачалі разыходзіцца чуткі праз непаладкі ў фінансавай цьвярдыні дзейнае пад імём БАПЦ групы пазбаўленага духоўніцкае годнасьці былога архіяпіскапа Мікалая, г.зн. у Кліўлэндзкай парахвіі.

Звадка пачалася з продажы пабудаванае рукамі й ахвярамі старэйшага пакаленьня парахвіянаў прыгожае ды дастатковае на патрэбы мяйсцовае грамады царквы з домам пры ёй у самым Кліўлэньдзе й праекту пабудовы новае й без патрэбы вялікае, ды яшчэ на чужой зямлі ў асельлі Полацак, што добры кавалак дарогі за местам.

Кошты пабудовы гэткае царквы й ейнае пазьнейшае утрыманьне ў шмат разоў перавышалі фінансавыя магчымасьці парахвіі й маглі быць пакрытыя толькі хоць і зь вялікага, але зь няпэўнай будучыняй прыбытку з канцэсіі на газартавую гульню "бінго".

Супраць намеру выказалася ці ня большая частка парахвіянаў, ды іхны супраціў нятолькі застаўся бяз выніку, але й выклікаў абразы й пагрозы з боку самога былога архіяпіскапа Мікалая - М. Мацукевіча.

Гэткім чынам зь ягонае ўхвалы перамагла партыя, што абслугоўвала бінго й ўлюбаваная вернікамі царква была прададзеная на нярэлігійныя патрэбы сірацінцу, ці лячэўні (госьпіталю).

Неўзабаве, аднак, калі яшчэ ня скончылася будова, паміж духоўнай уладай і парахвіяльнай радай зьявілася нязгода й спрэчкі.

Парахвіяльная бо рада, навучаная самым М. Мацукевічам, што можна выбіраць япіскапаў сабе даспадобы, адмовілася нятолькі дзяліцца зь ім грашыма, але й даваць яму справаздачу.

У адказ М. Мацукевіч адлучыў сяброў рады ад прычасьця й, не зважаючы на тое як ганіў запраўдных першагерархаў БАПЦ за судовую абарону ад ягонае разбуральнае дзейнасьці, падаў справу ў суд.

Парахвіяльная рада не засталася ў даўгу й падала ў суд на высяленьне з парахвіяльнага дому пастаўленых М. Мацукевічам сьвятара й япіскапа Аляксандра Салагуба, патрэба утрыманьня якога й прысьпяшыла спор за грошы.

Амэрыканскія суды, як ведама, не сьпяшаюць разьвязваць царкоўныя сваркі й кліўлэндзкія справы будуць ляжаць там хто ведае як доўга, тымчасам, аднак, парахвіяльная рада надумала уцячы ад адказнасьці й пачала перамовы праз пераход у грэцкую, або у г.зв. амэрыканскую, а ў запраўднасьці расейскую царкву.

Бяда толькі, ці пойдзе зь імі туды бінго, бо ўсе дакумэнты, што датычаць яго забраў на дасьледаваньне штатны пракурор і няведама, ці будзе адноўлены дазвол на гульню.

Так, ці йнакш, цяжка спадзявацца, каб парахвія як беларуская, ці нават як якая іншая існавала далей.

З гэтага павароту справаў у запраўднай бядзе апынуўся пастаўлены Мацукевічам япіскап Аляксандар Салагуб, бо нятолькі Кліўлендзкая, але й парахвія ў Гайлэнд Парку адмовілася яго ўтрымоўваць.

Давялося ратавацца ў сэрбскім манастырчыку ажно ў Каліфорніі, што зь незразумелых прычынаў хаваецца ад свае Царквы пад апекай М. Мацукевіча.

Гэты крызіс, нажаль, не схамянуў ні М. Мацукевіча, ані А. Салагуба й апошні, ў тым-жа манастыры паставіў сумлеўнае славы ангельца на сьвятара у падуладную грэцкай юрысдыкцыі беларускую парахвію ў Манчэстары, што, як ведама, забаронена канонамі.

Праўда, крыху раней, ня першы раз не зважаючы на каноны, ён без дазволу перахапіў гэтую парахвію з тае-ж канстантынопальскае юрысдыкцыі, але адна няпраўда ня робіць другое праўдай.

Як калатня ў Кліўлэньдзе, гэтак і некананічныя дзеі М. Мацукевіча й А. Салагуба ў Манчэстары няслявяць запраўдную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву й ствараюць перашкоды для Ейнага узнаўленьня на Бацькаўшчыне, ды прызнаньня іншымі Цэрквамі.

Вось, як непакаяны й неадпакутаваны грэх зрады нашае Царквы М. Мацукевічам плодзіць падобныя на яго грэшныя вывадкі.

---

**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-Й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ ЛІСТКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ, ЦІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.**

**АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702**
**TEL./FAX.: (1 718) 875-0595, TEL./FAX: (1 732) 868-1589**

---

**ЦІКАЎЦЕСЯ Й НАВЕДВАЙЦЕ СЕЦІЎНУЮ МЕСЬЦІНУ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ІНТЭРНЭЦЕ: www.belaoc.com ДЫ НАКАЗВАЙЦЕ ПРАЗЬ ЯЕ ІНШЫМ!**

---

**ВЫДАВЕЦТВА БАПЦ "ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ"**
**НАДРУКАВАЛА Й ПРАДАЕ**

**БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР**
**НА 2002-гі ГОД**

**У КНІЖЦЫ НА 100 БАЧЫНАХ ЗЬМЕШЧАНЫЯ ПАТРЭБНЫЯ КОЖНАМУ ПРАВАСЛАЎНАМУ БЕЛАРУСУ КАЛЯНДАРНЫЯ ВЕСТКІ, ІМЁНЫ СЬВЯТЫХ Й АРТЫКУЛ, ШТО ДАТЫЧЫЦЬ БЕЛАРУСКАЕ ЦАРКОЎНАЕ ГІСТОРЫІ.**

**ЦАНА $ 5.00 — ЗЬ ПЕРАСЫЛКАЙ $ 6.00**

**У ВЫДАВЕЦТВЕ МОЖНА ТАКСАМА ЗАМОВІЦЬ:**

- **ЧЫРВОНА-БЕЛЫ БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГЭРБ "ПАГОНЮ" (21.5 ЦМ Х 28 ЦМ) $ 3.00**
- **КАЛЯРОВЫ МАЛЮНАК "ХРОСТ БЕЛАРУСІ" (21.5 ЦМ Х 28 ЦМ) $ 3.00**
- **БАРЫС ДАНІЛЮК. ДУШЫНЫЯ ПАСЬПЕВЫ. РЫФМАВАНЫЯ ПЕРАКАЗЫ ВЫБРАНЫХ ПСАЛЬМАЎ. 48 БАЧ. $ 5.00**
- **БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР НА 2001-ШЫ ГОД. 98 БАЧ. $ 2.00**

**ПЕРАСЫЛКА: $ 1.00 ЗА КОЖНАЕ ВЫДАНЬНЕ.**

**ЗАМАЎЛЕНЬНІ ПАСЫЛАЦЬ І ЧЭКІ ВЫПІСВАЦЬ НА CHURCH MESSENGER**
**P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982**

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Зь вялікай удзячнасьцяй за падтрыманьне, што Вы даяцё нашаму часапісу, вітаем Вас з Хрыстовым Нараджэньнем нашыя Дарагія Дабрадзеі.

Шчыра вітаем з гэтым Вялікім Сьвятам і Вас, нашыя Паважаныя Чытачы, што яшчэ ня справіліся гэтае падтрыманьне нам даць.

Упрашаем Народжанага ў Бэтлеэме Дзіцяткам нашага Збаўца Ісуса Хрыста, каб гэты Сьвяты Дзень быў усім радасны ды, каб Новы Год прынёс Божае прыяньне ў Вашым жыцьці.

Упрашаем Яго яшчэ, каб у новым годзе шчодрасьць нашых дабрадзеяў не паменшала, а ўзрасла ды, каб колькасьць нашых чытачоў пабольшала і ўсе яны сталі няскупымі дабрадзеямі нашага часапісу, ды выдавецтва.

Рост дабрадзейства бо, ці ахвярнасьці неабходны, каб наш часапіс - адзіны голас навагі на ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне ня змоўк ды, каб нашае выдавецтва змагло хоць крыху зьменшыць нястачу праваслаўнае рэлігійнае літаратуры на беларускай мове ня з чужым, а зь беларускім духам.

Заданьне гэтае, з прычыны высокіх коштаў друку й паштовае перасылкі ў ЗША ды забароны БАПЦ на Беларусі, вельмі цяжкое, таму й справіліся мы зь ім толькі часткова, выдаўшы за год, апрача двох нумароў часапісу, толькі настольны каляндар.

Усё-ж ад нашых намераў мы не адмовіліся й будзем прабаваць асягнуць іх шукаючы спонсараў на паасобныя выданьні.

Таму, у наступным нумары "Царкоўнага Пасланца", а таксама лістоўна, зьбіраемся зьвярнуцца да праваслаўных беларусаў у замежжы з заклікам ахвяроўваць сродкі на цалковае, або частковае пакрыцьцё кошту друку нашым выдавецтвам рэлігійнага зьместу кніжак.

Іхныя ахвяры на памяць па сабе, ці па спачылых родных будуць з падзякай адзначаныя на адумысловых бачынах у выданьнях, што за іхныя ахвяры выйдуць у сьвет.

Тымчасам, аднак, просім не забывацца, што "Царкоўны Пасланец" застаецца галоўнай зброяй у нашым змаганьні за ўзнаўленьне нашае Царквы на Бацькаўшчыне ды падтрымаць яго, як гэта зрабілі ніжэй пададзеныя нашыя Дабрадзеі:

Ананімна - 120.00 д., В. Балашчанка - 20.00 д., а. М. Бурнос - 59.95 д., Б. Данілюк - 50.00 д., М. Грэбень - 20.00 д., А. Карповіч - 15.00 д., М. Касьцюк - 15.00 д., а. В. Кендыш - 50.00 д., К. Макарэвіч - 10.00 д., др. М. Смаршчок - 50.00 д. І. Сьмірнова - 100.00 д., О. Сяднёва - 20.00 д., А. Тальянскі - 30.00 д., А. Шукелойць - 50.00 д., а. М. Таўпека - 125.00 д., О. Яськевіч - 50.00 д.

Няхай-жа Народжаны ў Бэтлеэме наш Збавец Ісус Хрыстос узнагародзіць іхную шчодрасьць ды дасьць, каб яна стала прыкладам, за якім пойдуць усе нашыя чытачы!

Рэдакцыя Выдавецтва БАПЦ
"Царкоўны Пасланец"